УДК 94(476.5)«09/12»

*С. П. ЕМЯЛЬЯНАЎ*

# КАТЭГОРЫЯ СВАБОДНАГА НАСЕЛЬНІЦТВА СТАРАЖЫТНАРУСКАЙ ЗЯМЛІ (на прыкладзе Полацкага княства X–XIII стст.)

Посвящена исследованию характеристик социальной категории свободных людей в Древней Руси. Рассматривается непосредственный объект изучения – свободное население Полоцкой земли X–XIII вв., которое в источниках обозначается терминами «людье», «мужи» или по территориально-политической принадлежности – «полочане». Показано, что, как и в основных традиционных социальных моделях индоевропейских обществ, в русской земле свободный человек стоит в центре общественной структуры. Первой характеристикой свободного человека является принадлежность к данной земле, проявляемая во владении хозяйством. Хозяева имели право участия в народных собраниях (вече), таким образом, сообщество свободных людей представляло собой «политическое тело» земли. Третьей характеристикой свободы человека было право/обязанность владения оружием и участия в войне (до второй половины XI в. наблюдается исчезновение этой функции на юге Руси, но она сохраняется и позднее на севере, в том числе в Полоцкой земле). Эти характеристики объединяли на момент X–XIII вв. в одно политическое сообщество представителей разных социальных групп: дружинников, купцов, ремесленников, свободных сельских хозяев.

***Ключевые слова:*** Древняя Русь; Полоцкая земля; социальная история; социальная система; социальная модель; свободное население; вече; вечники; характеристики свободного человека Древней Руси.

The article is devoted to the research of the of the freeborn men social category characteristics in Old Ruś. The freeborn group of Połack of X–XIII stands as an immediate object of study. It is designated as «people» («lud'je»), «men» («muzy»), or «połočanie» according to the territorial and political affiliation, in the sources. A freeborn man takes the central place in social structure at Old Ruś lands, as well as at most Indo-European traditional social models. Firstly, a freeborn man is related to the land, which is manifested in owning the household. Secondly, the land holders had the right to be involved into the public meetings («veche»), which means that the freeman community represents the «political body» of the land. Thirdly, a freeborn man had the right/duty to own weapons and to participate in a war (this function vanishes at the south of Ruś by the second part of the XI century, but it remains longer at the north, which hincludes the Połack land). These features united representatives of different social groups (warriors, merchants, craftsmen, free householders) as a common political community at the X–XIII centuries.

***Key words:*** Old Ruś; Połack land; social history; social system; social model; free (freeborn) men, vieča; viečniki; Old Ruś freeborn man characterystics.

Важнасць ведаў аб сацыяльнай структуры раннесярэднявечнага грамадства немагчыма недаацэньваць як мінімум таму, што нярэдка менавіта ў ёй можна знайсці тлумачэнні тым ці іншым палітычным падзеям, шляхам эвалюцыі соцыуму і дзяржавы. Адносна старажытнарускай гісторыі варта весці размову аб праблеме вызначэння той часткі насельніцтва, праявы дзейнасці якой сустракаюцца ў летапісах у форме вечавой актыўнасці. У навуцы не выпрацаваны адзіны адказ на пытанне аб тым, які статус і характарыстыкі мела гарадское і асабліва вясковае *людье* старажытнарускіх княстваў. Звесткі крыніц далёка не заўсёды могуць прапанаваць поўную карціну сацыяльнай структуры. Для летапісца яна з'яўлялася часткай паўсядзённай рэчаіснасці, якая звычайна заставалася па-за інтарэсамі аўтараў сярэднявечных наратываў[1]. Гэта непазбежна патрабуе звароту да як мага больш шырокага кола крыніц і да пошуку магчымых паралелей у лепш вядомых сістэмах. Зразумела, што ў такім святле нельга весці размову аб канчатковым вырашэнні пастаўленага пытання, а толькі аб пабудове ў большай ці меншай ступені імавернай мадэлі.

У рускіх летапісах асобы, што прымалі ўдзел у вечы, як правіла, фігуруюць пад назвамі «мужы», або «людзі». Тэрмін «мужы», відавочна, даволі шырокі, ахоплівае значныя слаі свабоднага насельніцтва, уключаючы і людзей простага стану, і «нарачытых», «лепшых» (тут і далей пераклад наш. – *С. Е.*) людзей – прадстаўнікоў арыстакратыі[2]. Вечавая дэмакратыя, *полоцкая свободность*, як адрозная рыса Полацкай зямлі была зафіксавана ў познім летапісанні, у прыватнасці ў «Хроніцы Літоўскай і Жамойцкай»[3], «Хронiцы Быхаўца»[4]. У гэтых крыніцах фігуруе і вызначэнне «мужы», і агульная назва «палачане» (*muży połoczane*[5]), якая пазначае ўсю полацкую грамаду, што выступае як калектыўны палітычны актар. Кантэкст і старажытнарускіх, і літоўска-рускіх летапісаў дазваляе меркаваць, што рэгіянальныя вызначэнні маюць у дадзеным выпадку той жа сэнс, што і слова «людзі»[6]. Свабодны чалавек, вечнік, – гэта заўсёды прадстаўнік супольнасці з цэнтрам у горадзе: «палачанін», «дручанін», «менянін» і г. д. У гэтым сэнсе катэгорыя «зямля» ў старажытнарускім грамадстве выглядае падобнай да такіх паняццяў, як *πόλις* у Антычнай Грэцыі[7], *res publica*, *civitas* і інш. у Старажытным Рыме[8], *fylki*, *land*, *riki* ў Скандынавіі ў сінхронны старажытнарускаму перыяду час[9].

Для вызначэння найбольш агульных характарыстык свабоднага чалавека варта звярнуцца да традыцыйнага светапогляду паўночнаеўрапейскіх народаў, які можна лічыць адлюстраваннем найстаражытнейшых ідэалагем аб уладкаванні свету і грамадства, разуменнем «ідэальнага» парадку, які «мае быць», што не магло не ўплываць на сацыяльна-палітычную практыку, асабліва на раннім этапе палітагенезу. Па-першае, варта весці размову аб наяўнасці трохузроўневай (у самым простым выглядзе) структуры свету. Найбольш яскрава яна прасочваецца ў германа-скандынаўскай Традыцыі, як проста, у эдычных тэкстах, так і ўскосна, напрыклад, паводле сюжэтных выяў на мемарыяльных камянях (Бруа, Струа-Хамрэ і інш.)[10], дзе сярэдні, батальны, сюжэт адпавядае свету людзей, Мідгарду, верхні, дзе выяўлены ўваход забітага ў Вальхалу, – Асгарду. Дракар, выяўлены на ніжнім ярусе, можа быць трактаваны не як «карабель вікінгаў»[11], а як Нагльфар[12], і сімвалізаваць, адпаведна, Хель – Пекла. На тэрыторыі Беларусі, у тым ліку ў паўночным яе рэгіёне, маюцца знаходкі надмагілляў з парасонападобнымі трохузроўневымі выявамі[13], якія таксама могуць быць інтэрпрэтаваны падобным чынам[14].

Асаблівую ўвагу варта звярнуць на сярэднюю частку гэтай структуры, на цэнтр, свет жывых, і прасачыць яе сувязь з вобразам гаспадарчай адзінкі. У скандынаўскіх мовах само паняцце «свет» перадаецца тэрмінам *garðr* – «двор». Свет людзей, Мідгард (*Miðgarðr*), месціцца ў сярэдзіне Сусвету, акружаны варожым для чалавека «Вонкавым Светам» – Утгардам (*Útgarðar*)[15]. У беларускай Традыцыі сустракаецца семантычна блізкая сітуацыя – у якасці цэнтра і адначасова мадэлі свету выступае хата. Сцены, дзверы, дах, вокны разумеліся як першыя межы паміж унутраным, «сваім», і знешнім, «чужым», светам[16]. Аналагічнай семантыкай валодалі вароты – брама ў сядзібу[17], што стварае паралелі з узгаданым вышэй германа-скандынаўскім варыянтам. Такая сувязь між разуменнем хаты/сядзібы і свету мае і сацыяльны кантэкст – яна ўказвае на асаблівасці стану валодання, гаспадарання.

Гаспадар уласнай сядзібы ў народнай культуры і свядомасці – пан, уладар, нават князь. Скандынаўскі тэрмін *bóndi* (*búandi*, *bóandi*), які звычайна перакладаецца як «селянін», «удзельнік грамады», прама паходзіць ад слова *bú* – «жыллё». Такім чынам, больш дакладна перадаваць значэнне гэтага тэрміна будуць такія паняцці, як «гаспадар», «уладальнік сядзібы»[18]. «Манаршыя» найменні гаспадара прысутнічаюць у беларускіх (і не толькі) народных песнях і абрадавых моўных формулах, асабліва валачобных (калядных, велікодных) і вясельных[19].

Гаспадар як асноўны актыўны элемент сацыяльнай сістэмы дапасуецца таксама да вядомых індаеўрапейскіх грамадскіх мадэлей. Як і адносна прасторавых уяўленняў, у найбольш простай схеме ўяўленняў сацыяльных таксама сустракаецца трохчасткавы падзел. Паводле «тэорыі трох функцый» Ж. Думезіля, у грамадстве індаеўрапейскіх народаў можна вызначыць станы святароў («брагманаў»), воінаў («кшатрыяў»), а таксама земляробаў і жывёлагадоўцаў («вайш'яў»)[20]. Аналагічныя групы С. Санько прасочвае ў беларускай традыцыйнай культуры, дапасоўваючы іх да сістэмы прасторавых і колеравых уяўленняў, дзе «земляробам» адпавядае лакацыя «цэнтр»[21].

Суадносіны катэгорыі «земляробы» (у шырокім сэнсе пад ёй маюцца на ўвазе ўсе, хто займаецца вытворчай працай) з паняццем «цэнтр» упісваюцца як у пазначаныя вышэй уяўленні аб будове Сусвету, так і ў вядомае па крыніцах разуменне грамадскай будовы ў старажытных скандынаваў. Так, «Песня пра Рыга» (*Rigsþula*) уяўляе сабой апавяданне аб паходжанні розных станаў грамадства ад бога Рыга[22], які атаясамляецца з асам Хеймдалем. У першай страфе «Прароцтва Вёльвы» (*Völuspá*) усе людзі названы менавіта «дзецьмі Хеймдаля» (*mögu Heimdallar*)[23]. Паводле «Песні пра Рыга», бонды займаюць сярэдняе месца паміж рабамі і воінамі, якія адначасова маюць святарскія функцыі, што адпавядае вядомым асаблівасцям ролі конунгаў і іншых прадстаўнікоў знаці, напрыклад скальдаў у Скандынаўскіх краінах[24].

Такім чынам, разуменне гаспадара і гаспадарчай адзінкі, сядзібы, у беларускай традыцыйнай свядомасці мае відавочныя паралелі ў германа-скандынаўскіх крыніцах і ўпісваецца ў агульнаіндаеўрапейскі кантэкст. У выніку магчымым падаецца казаць пра наяўнасць у традыцыйным грамадстве такой сацыяльнай мадэлі, дзе адно з асноўных месцаў будуць займаць вольныя гаспадары, удзельнікі грамады той ці іншай зямлі.

Якімі рысамі адрознівалася гэта катэгорыя ў канкрэтна-гістарычны перыяд X–XIII стст.? Па-першае, суадносіны паняццяў *людье*, *земля*, а таксама лакальных найменняў супольнасцей, як было сказана, указваюць на наяўнасць характарыстыкі «аўтахтоннасці», «тутэйшасці». Падаецца магчымым дапасаваць да сацыяльнай сістэмы рускіх зямель словы французскага даследчыка А. дэ Бенуа аб антычным полісе: «…дэмас і этнас у пэўным сэнсе супадалі: дэмакратыю нельга зразумець у стасунку да індывіда, адно ў стасунку да поліса, так бы мовіць, да горада як арганізаванай супольнасці»[25]. Жыхары кожнай рускай лакальнай зоны з цэнтрам у горадзе складалі «зямлю», супольнасць, палітычнай праявай якой было веча, а вайсковай – апалчэнне (полк). У рамках развітых зямель XI–XIII стст., якія мелі складаную структуру, існавала іерархія лакальных супольнасцей на чале з грамадой галоўнага горада[26], на што прама ўказвае летапісец: *Новгородци бо изначала и Кыяне, и Полочане, и вся власти якож на дому вѣча сходятся: на что же старѣишии сдумають, на томь же пригороди стануть*[27]. У той жа час прыгарады таксама маглі адыгрываць значную ролю ў палітычным жыцці ўсёй зямлі, праводзіць свае інтарэсы, што выдатна бачна на прыкладзе падзей змагання паміж Рагвалодам Барысавічам і Расціславам Глебавічам за ўладу ў Полацку, калі першы абапіраўся на Друцк, а другі – на Менск[28].

Гаспадар у раннесярэднявечных законах знаходзіцца ў цэнтры прававой сістэмы, ад стаўлення да яго вылічваюцца віры па іншых катэгорыях грамадства[29]. Ён нясе адказнасць не толькі за сябе, але і за сваіх сямейных. Дарослыя сыны, што яшчэ не аддзяліліся ад бацькі, не мелі голасу на вечы. Жыхары Друцка кажуць князю Рагвалоду Барысавічу: «*…поѣди, княже, не стряпай, ради есме тобѣ;* ***аче ны ся и съ дѣтьми бити за тя****, а ради ся бьемъ за тя*»[30]. «Astrichane» гэтага паведамлення – сукупнасць гаспадароў горада і воласці. Рашэнне аб падтрымцы князя прымаюць яны, аднак у баявых дзеяннях будуць удзельнічаць і іх «дзеці» – дастаткова дарослыя для ваеннай справы сыны. Наяўнасць голасу менавіта ў гаспадароў ускосна пацвярджаецца практыкай копных судоў як своеасаблівага позняга адгалоску старажытнарускай дэмакратыі[31].

У сувязі з гэтым падаецца магчымым вызначыць прыблізную колькасць вечнікаў у той ці іншы перыяд зыходзячы з колькасці гаспадарскіх сядзіб. Аднак паўстаюць дзве праблемы: па-першае, без татальнага археалагічнага вывучэння ўсёй тэрыторыі Полаччыны нельга нічога дакладна сказаць пра колькасць вясковых свабодных людзей, па-другое, далёка не кожную жылую пабудову варта звязваць са свабодным чалавекам. Для паўночнаеўрапейскіх гарадоў таго часу стандартнай рысай былі дамы іншаземных купцоў, якія знаходзіліся ў горадзе толькі некаторы час і наўрад ці маглі далучацца да мясцовых грамад[32]. Таксама нейкая частка жылой забудовы, асабліва вясковай, належала непаўнапраўным асобам: халопам, смердам (калі зыходзіць з разумення катэгорыі «смерд», прапанаванай І. Я. Фраянавым[33]) і г. д. Прыблізнае ўяўленне аб колькасці вечнікаў ад Полацка можна стварыць зыходзячы з лічбы колькасці сядзіб. С. Тарасаў падае наступныя звесткі: у XI – пачатку XII ст. – прыблізна 600 двароў (менш за 4000 чал. насельніцтва), у канцы XII–XIII ст. – ужо 2400 двароў (больш як 14 000 чал. насельніцтва)[34]. Такім чынам, нават на мяжы XII–XIII стст. колькасць паўнапраўных вечнікаў ад самога Полацка не магла перавышаць 2400 чал. (сапраўдная лічба была меншай па пазначаных прычынах). Калі гіпатэтычна ўявіць, што Полацкая воласць давала прыблізна такую ж лічбу, у выніку атрымаецца каля 5000 вечнікаў. Для параўнання, на афінскай эклесіі для прыняцця важных рашэнняў патрабаваўся кворум у 6000 чал., агульная колькасць грамадзян была значна большай[35].

Гаспадар сядзібы, які меў права голасу на вечы, нёс і асноўныя сацыяльныя абавязкі, перш за ўсё ваенны. Апалчэнне складала найбольшую масу войска, па сваёй колькасці значна перавышала прафесійную дружыну. Гэта закладвала падмурак палітычнай сістэмы, якая забяспечвала захаванне ўплыву грамады на лёс дзяржавы, – у выпадку канфлікту між грамадой і князем апошні часцей за ўсё быў вымушаны саступаць, што яскрава бачна па полацкіх падзеях, калі Расціславу Глебавічу даводзіцца спачатку дамаўляцца з грамадой і адорваць людзей *многыми дарми*, а неўзабаве ўвогуле ўцякаць з горада, страціўшы пры гэтым частку дружыны[36]. Аб пастаянным удзеле вольных людзей у вайсковых аперацыях можна меркаваць па шматлікіх паведамленнях летапісаў. Так, ужо ўзгадвалася, як жыхары Полацкай зямлі выступалі ва ўнутраных супрацьстаяннях на баку сваіх кандыдатаў на полацкі стол. Іпацьеўскі летапіс паведамляе: *…поиде Володарь Глѣбовичь к Полотьску с* ***ратью****; Василковичь же Всеславъ поиде противу ему с Полчаны. Володарь […] вдари на нихъ изнезапы, и многих изби, а инѣхъ руками изоимаша […]. Володарь же вниде в Полтеск и цѣлова хрестъ с* ***Полтьцаны***[37]. Вольныя гаспадары, што разам з «дзецьмі» абараняюць сваю зямлю, – рэчаіснасць старажытнарускай сацыяльнай сістэмы. *Мужь старъ*, сям'я якога займаецца скураной вытворчасцю ў Кіеве, што разам з сынамі выйшаў на бітву з печанегамі, з'яўляецца героем падзей, апісаных пад 993 г.[38] Важна, што для кіеўскіх летапісцаў мяжы XI–XII стст. з'яўленне ў шэрагах «воінаў» Уладзіміра Святаславіча гараджан было цалкам натуральным. Невядома, чаму ў тым жа Кіеве, але ў 1078 г., гараджане не толькі не ўдзельнічалі ў бітве з полаўцамі, але і патрабавалі ад князя *оружья и кони* для змагання[39]. Відаць, утрымання ўласнага ўзбраення ўжо не патрабавалі ад кіянаў (кіяўлян) у часы Яраславічаў. Магчыма, гэта звязана з рэформамі, распачатымі яшчэ Уладзімірам[40]. Узгаданы ўдзел дручан разам з «дзецьмі» ў барацьбе за полацкі стол на баку Рагвалода Барысавіча ў канцы 1150-х гг. дазваляе меркаваць, што жыхары Полацкай зямлі не гублялі свайго права/абавязку збройнай службы, і пад «палачанамі», якія ўдзельнічалі ў ваенных дзеяннях X–XIII стст., варта разумець менавіта апалчэнне з ліку вольных гаспадароў. Такое позняе захаванне раннесярэднявечнага апалчэння і, адпаведна, запаволеная страта насельніцтвам поўных палітычных правоў вядомы, напрыклад, у Нарвегіі[41].

Такім чынам, можна выказаць думку аб тым, што ў сацыяльнай мадэлі Старажытнай Русі асноўнае месца займала менавіта катэгорыя свабоднага насельніцтва. Яна вызначалася правамі/абавязкамі сядзібнага валодання (гаспадарання), удзелу ў палітычным жыцці праз народныя сходы, а таксама ў вайне. Гэтыя крытэрыі дазвалялі аб'яднаць у адзіную палітычную супольнасць прадстаўнікоў розных сацыяльных і прафесійных груп: дружыннікаў, якія валодалі сядзібамі ў дадзенай зямлі, гарадскіх рамеснікаў і гандляроў, сельскіх гаспадароў і інш.

БІБЛІЯГРАФІЧНЫ СПІС


[1] Гл.: Гуревич А. Я. «Феодальное средневековье»: что это такое? Размышления медиевиста на грани веков // Избранные труды. Крестьянство средневековой Норвегии / А. Я. Гуревич. СПб., 2006. С. 354–355.

[2] Гл.: Фроянов И. Я. Мятежный Новгород. Очерки государственности, социальной и политической борьбы IX – начала XIII столетия. СПб., 1992. С. 156.

[3] Гл.: Хроніка Літоўская і Жамойцкая // Хронікі і летапісы Беларусі. Сярэднявечча і раннемадэрны час. Тэматычны дадатак да нумару «ARCHE» № 9 за 2009 («Беларусь і Літва: 1000 год разам»). 2010. С. 413–414, 416–417.

[4] Гл.: Хроніка Быхаўца // Хронікі і летапісы Беларусі. Сярэднявечча і раннемадэрны час. Тэматычны дадатак да нумару «ARCHE» № 9 за 2009 («Беларусь і Літва: 1000 год разам»). 2010. С. 682–683.

[5] Там жа. С. 682.

[6] Гл.: Сергеевич В. И. Древности русского права : в 4 т. Т. 2. Вече и князь. Советники князя. СПб., 1908. С. 41.

[7] Гл.: Бенуа дэ А. Зварот да дэмакратыі: даўніна і сучаснасць // Druvis. Almanach Centru Etnakasmalohii «Kryuja». 2005. № 1. С. 208.

[8] Гл.: Штарк Р. Res Publica // Res Publica: История понятия : сб. ст. СПб., 2009. С. 47–63.

[9] Гл.: Лебедев Г. С. Эпоха викингов в Северной Европе и на Руси. СПб., 2005. С. 170.

[10] Там жа. С. 332.

[11] Гл.: Гуревич А. Я. Походы викингов. М., 2005. С. 176.

[12] Гл.: Прорицание вёльвы – Völuspá // Старшая Эдда – SæmundarEdda ; NorrcenDýrð (Северная Слава) [Электронный ресурс]. Режим доступа: http://norse.ulver.com/edda/voluspa.html (дата обращения: 04.03.2014).

[13] Гл.: Druvis. Almanach centru etnakasmalogii «Kryŭja». 2008. № 2. С. 78, 241.

[14] Гл.: Прохараў А. Каменны шлях на нябёсы. Міфа-рытуальная семантыка пахавальнага знака з паўночнай Беларусі // Druvis. Almanach centru etnakasmalogii «Kryŭja». 2011. № 3. С. 85–86.

[15] Гл.: Снорри Стурлусон. Видение Гюльви // Младшая Эдда – Snorra Edda ; Norrcen Dýrð (Северная Слава) [Электронный ресурс]. Режим доступа: http://norse.ulver.com/src/snorra/2ru.html (дата обращения: 04.03.2014).

[16] Гл.: Валодзіна Т. Хата // Беларуская міфалогія : энцыкл. слоўнік. Мінск, 2006. С. 527.

[17] Гл.: Валодзіна Т. Вароты // Беларуская міфалогія : энцыкл. слоўнік. Мінск, 2006. С. 70.

[18] Гл.: Лебедев Г. С. Пазнач. твор. С. 167.

[19] Гл.: Беларусы. Т. 5. Сям’я. Мінск, 2001. С. 275, 280.

[20] Гл.: Дюмезиль Ж. Верховные боги индоевропейцев. М., 1986. С. 30–38.

[21] Гл.: Санько С. Імёны бацькаўшчыны. Крыўя // Druvis. Almanach centru etnakasmalogii «Kryŭja». 2005. № 1. С. 8–9.

[22] Гл.: Песнь о Риге – Rígsþula // Старшая Эдда – SæmundarEdda ; NorrcenDýrð (Северная Слава) [Электронный ресурс]. Режим доступа: http://norse.ulver.com/edda/rigstula.html (дата обращения: 04.03.2014).

[23] Гл.: Прорицание вёльвы – Völuspá…

[24] Гл.: Лебедев Г. С. Пазнач. твор. С. 335 ; Гуревич А. Я. История и сага // Избранные труды. Крестьянство средневековой Норвегии. СПб., 2006. С. 30–31 ; Сага об Эгиле сыне Скаллагрима (Egils saga Skallagrímssonar) // Саги Городищенского Фьорда (Borgfirðingasögur) ; Norrcen Dýrð (Северная Слава) [Электронный ресурс]. Режим доступа: http://norse.ulver.com/src/isl/egil/ru.html (дата обращения: 04.03.2014).

[25] Бенуа дэ А. Пазнач. твор. С. 208.

[26] Гл.: Дук Д. У. Полацк і палачане (IX–XVIII стст.). Наваполацк, 2010. С. 52.

[27] Текстология русских летописей (IX – начала XIV в.). Вып. 2. Южно-русское и владимиро-суздальское летописание XII в. М., 2007. С. 287.

[28] Гл.: Ипатьевская летопись (Серия «Русские летописи», т. 11). Рязань, 2001. С. 338–340.

[29] Гл.: Гуревич А. Я. Аграрный строй варваров // Избранные труды. Древние германцы. Викинги. СПб., 2007. С. 58–59.

[30] Ипатьевская летопись… С. 339.

[31] Гл.: Буцін Д. С. Склад удзельнікаў копнага суда на беларускіх землях Вялікага Княства Літоўскага (XVI–XVIII стст.) // Працы гістарычнага факультэта БДУ. 2010. Вып. 5. С. 19.

[32] Гл.: Лебедев Г. С. Пазнач. твор. С. 235 ; Кирпичников А. Н. Новые материалы о международных торговых связях средневековой Ладоги с Балтийским регионом и странами Востока (по данным раскопок 2002 г.) // Северная Русь и народы Балтики : тр. Ин-та истории материальной культуры. 2007. Т. 24. С. 214.

[33] Гл.: Фроянов И. Я. Смерды в Киевской Руси // Вестн. Ленингр. ун-та. 1966. № 2 : История, язык, литература, вып. 1. С. 73.

[34] Гл.: Тарасаў С. В. Полацк IX–XVII стст.: Гісторыя і тапаграфія. Мінск, 2001. С. 89–90.

[35] Гл.: Маринович Л., Кошеленко Г. Становление афинской демократии // Античная демократия в свидетельствах современников. М., 1996. С. 20.

[36] Гл.: Ипатьевская летопись… С. 339–340.

[37] Там жа. С. 260.

[38] Там жа. С. 83–85.

[39] Там жа. С. 120.

[40] Там жа. С. 83, 87.

[41] Гл.: Гуревич А. Я. Свободное крестьянство феодальной Норвегии // Избранные труды. Крестьянство средневековой Норвегии. СПб., 2006. С. 331–337.

Пастуліў у рэдакцыю 15.02.2014.

***Сяргей Пятровіч Емяльянаў*** – аспірант кафедры гісторыі Беларусі старажытнага часу і сярэдніх вякоў. Навуковы кіраўнік – кандыдат гістарычных навук, дацэнт, загадчык кафедры гісторыі Беларусі старажытнага часу і сярэдніх вякоў Ю. Л. Казакоў.